Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 860.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 23 верасня 1998 г. № 101 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Затрымалі за хабар

**Раніцай 22 верасня ў сваім рабочым кабінеце пры атрыманні буйной сумы хабару супрацоўнікамі Камітэта дзяржбяспекі затрыманы работнік аднаго з упраўленняў Савета міністраў Беларусі Мікалай Аляксееў.**

Дэталі затрымання М.Аляксеева пакуль не паведамляюцца. У той жа час вядома, што на ўчарашнім пашыраным пасяджанні Савета міністраў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падзякаваў супрацоўнікам КДБ за "прынцыповасць і рашучасць" па барацьбе з карупцыяй, нягледзячы на асобы.

*БелаПАН*

## Адзін долар – 100 тысяч

**Курс беларускага рубля ў чарговы раз пачаў падаць. Звязанае гэта, як і раней, з абвалам каціровак яго «старэйшага брата».**

Калі на пачатку мінулага тыдня курс скупкі наяўнага долара на «чорным» рынку складаў 75-85 тысяч рублёў, то ўжо ў панядзелак-аўторак за 1 долар можна было атрымаць 95-105 тысяч рублёў. Дынамаўскі рынак у выхадныя гандляваў па 100 тысяч рублёў за долар. Курс безнаяўнага долара з пачатку гэтага тыдня вагаецца ў межах 180-240 тысяч беларускіх рублёў.

**Алесь САДОЎСКІ**

## Уцёк з аўтаматам

**Салдат адной з вайсковых частак, размешчаных у Баранавічах, у ноч з нядзелі на панядзелак уцёк з паста, прыхапіўшы з сабою аўтамат Калашнікава з поўным боекамплектам.**

Гэтай жа ноччу ён спрабаваў ускрыць у горадзе адзін з прыватных гаражоў, каб скрасці машыну, але безвынікова — гаражны замок не паддаўся нават пасля выпушчаных па ім 8 куляў.

Дзеля затрымання ўцекача, які, дарэчы, з'яўляецца жыхаром Баранавічаў, былі задзейнічаныя супрацоўнікі мясцовай міліцыі і вайсковай камендатуры.

Салдата затрымалі ўвечары гэтага ж дня непадалёк ад чыгуначнага вакзала, але зброі пры ім не было. Свой аўтамат ён закапаў у лесе недалёка ад горада. Цяпер вайсковая пракуратура высвятляе, што прымусіла ўцякаць з войска 19-гадовага юнака, якому да "дэмбеля" заставалася ўсяго толькі 3 месяцы.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Сустракаюць патрыярха

*Чакаецца паломніцтва*

**Мінскія прыходы рыхтуюцца сустракаць патрыярха Маскоўскага і Усяе Русі Алексія ІІ, які заўтра прыбудзе ў беларускую сталіцу.**

У чацвер кіраўнік Рускай праваслаўнай царквы па традыцыі паклоніцца абразу Мінскай Божай Маці ў катэдральным саборы. Патрыярх Алексій наведае таксама царкву Марыі Магдаліны, храм Аляксандра Неўскага, якія адзначыў сёлета свае стагоддзе, а таксама малады Свята-Уваскрасенскі прыход. На будаўнічай пляцоўцы дома міласэрнасці ўжо гатовы для асвячэння патрыярхам храм Іова Шматпакутнага.

Дарэчы, падчас мінулага візіту ў Мінск патрыярх Алексій ІІ асвяціў чарнобыльскі храм-помнік Усіх Тужлівых Радасці і адправіў тут першую літургію. За дапамогу ва ўзвядзенні храма патрыярх узнагародзіў тады ордэнам цяперашняга паліт-эмігранта Аляксандра Пупейку. Натуральна, што і на гэты раз кіраўнік РПЦ прывязе ўзнагароды і падарункі беларускім прыходам.

У прыхажанаў цяпер шмат клопатаў. Яны прыводзяць у парадак свае храмы, а бацюшкі па хвілінах удакладняюць наведванне кіраўніком РПЦ Мінскай, Віцебскай і Полацкай епархій.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**



***На здымку: да прыезду патрыярха Алексія ІІ парадкуюць катэдральны сабор, што каля плошчы Свабоды ў Мінску.***

## *Акцыі*

***Серыю пікетаў пад агульнай назвай «Свабоднае слова — у прамы эфір» плануе да канца года правесці Беларуская асацыяцыя маладых палітыкаў. Мэта акцыяў — дабіцца рэалізацыі канстытуцыйнага права на свабоду слова. Акрамя пікетаў, акцыя прадугледжвае збор подпісаў за права палітычных партыяў і грамадскіх арганізацыяў выходзіць у эфір на беларускім тэлебачанні і радыё.***

## *Сустрэчы*

***25 верасня ў Нью-Йорку, дзе праходзіць сесія Генасамблеі ААН, адбудзецца сустрэча Івана Антановіча з міністрам замежных справаў Расійскай Федэрацыі Ігарам Івановым. У цэнтры іх перамоваў будуць знаходзіцца пытанні каардынацыі дзейнасці абедзвюх краінаў у рамках ААН і іншых міжнародных арганізацыяў. Міністры таксама абмяркуюць стан і перспектывы беларуска-расійскіх адносінаў.***

## *Прыватызацыя*

***Па дадзеных Мінскага гарадскога камітэта па кіраванні дзяржмаёмасцю і прыватызацыі, з пачатку гэтага года ў беларускай сталіцы прыватызавана 21 прадпрыемства камунальнай уласнасці. Пяць з іх — шляхам выкупу арандаванай маёмасці, 16 прададзена на аўкцыёнах і конкурсах. Не густа.***

## *Гандаль*

***Адмоўнае сальда знешняга гандлю Беларусі ўзрасло да 988,8 мільёна доляраў. Асноўнымі партнёрамі Беларусі цяпер з'яўляюцца Расія, на долю якой прыпадае 60,4 працэнта аб'ёму знешнегандлёвага абароту, Украіна (7,4 працэнта), Германія (5,5), Польшча (2,9,), Літва (2,1), Італія (1,7) і ЗША (1,6 працэнта).***

# Настроі на заводах




*На здымку (з архіва): традыцыйныя лозунгі акцыяў прафсаюзаў.*

Як сведчаць сацыялагічныя апытанні, у рабочым асяроддзі назіраецца пэўная змена настрояў. Рабочыя ўсё часцей звязваюць прычыны свайго бядотнага становішча не з адміністрацыяй прадпрыемства, а з урадам і прэзідэнтам.

Не хацелася б усё гэта ацэньваць у такіх катэгорыях, як «чаша народнага цярпення», але задумацца над гэтым трэба. Таму што 18% работнікаў не зарабляюць нават на самае таннае харчаванне, 71% зарабляюць толькі на харчаванне, цалкам забяспечаныя лічаць сябе толькі 0,3% работнікаў.

Трэба ўлічыць, што апытанне праводзілася на прадпрыемствах аўтасельгасмашынабудавання — гэтая галіна лічыцца ў нашай прамысловасці самай высокааплатнай. Што ўжо тады казаць пра настроі на іншых прадпрыемствах, напрыклад, у радыёэлектроніцы ці лёгкай прамысловасці, дзе зарабляюць па 3—4 мільёны ў месяц.

У Беларусі пакуль не было ў рабочым асяроддзі праяваў экстрэмізму, але рэзервы для яго існуюць і пастаянна накопліваюцца, пра што сведчаць вынікі апытання. Улады ж яўна недаацэньваюць сітуацыю і, на наш погляд, робяць занадта вялікія стаўкі на сілавое вырашэнне магчымых канфліктаў. Але тое, што падыходзіць для падаўлення адкрытага экстрэмізму, зусім не падыходзіць для прадухілення масавых праяваў незадавальнення. Так, па дадзеных таго ж апытання, толькі 5% работнікаў не гатовыя браць удзел у прафсаюзных акцыях пратэсту, яшчэ 6—7% апасаюцца страціць тое месца, тую зарплату, якія ў іх ёсць.

Па словах Аляксандра Бухвостава, старшыні прафсаюза аўтасельгасмашынабудавання, больш за палову работнікаў гатовыя ўдзельнічаць у мітынгах і забастоўках, а яшчэ каля 1/3 пакуль не вызначыліся. З улікам верагоднага развіцця сітуацыі гэты працэс можа стаць масавым.

Хацелася б падкрэсліць, што прафсаюзныя акцыі з'яўляюцца цывілізаванай, а ў нашым выпадку яшчэ і найбольш адэкватнай і найменш небяспечнай для грамадства формай пратэсту. Прафсаюзы, сказаў Бухвостаў, безумоўна выступаюць за эфектыўную эканоміку, за рэформы, але ў любым выпадку будуць патрабаваць, каб праца мела ў краіне дастаткова высокую цану. А як могуць патрабаваць рабочыя — мы помнім па гарачым красавіку 1991 года.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

## Дэлегацыя з Латвіі

**Як паведаміў спікер сейма Латвіі Алфрэд Чэпаніс, ягоная сустрэча з прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам адбудзецца раніцай 24 верасня. Рабочы візіт латвійскай дэлегацыі працягнецца з 23 па 25 верасня.**

Латвійская дэлегацыя прыбывае ў Мінск сёння і будзе знаходзіцца ў Беларусі да 25 верасня. У склад дэлегацыі, якую ўзначальвае латвійскі спікер, уваходзяць не толькі дэпутаты, але і мэры гарадоў Вентспілса і Ліепаі.

Па словах А.Чэпаніса, мэта візіту — умацаванне і пашырэнне эканамічнага супрацоўніцтва з РБ. Гутарка, у прыватнасці, пойдзе пра развіццё латвійскіх портаў, павелічэнне грузаабаротаў праз іх. Гэта выгадна і Латвіі, і Беларусі. Цяперашні візіт — лагічны працяг сустрэчы ў Даўгаўпілсе прэм'ер-міністраў абедзвюх краінаў Г.Крастса і С.Лінга, якая адбылася два месяцы таму. *«З суседзямі трэба знаходзіць агульную мову, нават калі мы не падзяляем іх унутраную палітыку»,* — сказаў А.Чэпаніс.

У планах дэлегацыі — сустрэчы з прэм'ерам Беларусі, першым намеснікам міністра замежных справаў, а таксама наведванне шэрагу прамысловых прадпрыемстваў Мінска.

**Галіна ПОМЕРЭ**

## «Пажарны» ўказ

**Учора быў апублікаваны ўказ прэзідэнта Лукашэнкі аб рэарганізацыі міністэрства па надзвычайных сітуацыях.**

Згодна з указам, да міністэрства далучаецца галоўнае ўпраўленне ваенізаванай пажарнай службы, якое было адным з падраздзяленняў МУС.

Мы вырашылі пацікавіцца, што думаюць наконт гэтай рэарганізацыі самі пажарныя. Супрацоўнікі Галоўнага ўпраўлення яшчэ не ведаюць, чым абернецца для іх гэтае рэфармаванне. Указ быццам бы захоўвае за імі статус ваеннаслужачых, але як будзе далей — ніхто не ведае. У пажарным ведамстве не выключаюць, што вайсковыя званні пакінуць толькі за тымі супрацоўнікамі, якія займаюцца непасрэдным тушэннем пажараў, а ўсе астатнія стануць звычайнымі цывільнымі дзяржслужачымі і пазбавяцца ранейшых ільготаў. Такім чынам, пажарная служба, у структурах якой цяпер працуе прыкладна 20 тысяч чалавек, можа недалічыцца многіх высокакласных спецыялістаў, якія, значна страціўшы ў зарплаце, будуць вымушаныя шукаць сабе новае месца працы.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Сустрэнуцца прэм'еры, а потым – прэзідэнты

**Бліжэйшым часам павінна адбыцца сустрэча прэм'ер-міністраў Беларусі і Украіны.**

Дамоўленасць аб гэтым была дасягнутая падчас тэлефоннай размовы прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам, якая адбылася па ініцыятыве кіраўніка ўкраінскай дзяржавы. Прэзідэнты дамовіліся таксама аб правядзенні ў кастрычніку ў Беларусі беларуска-ўкраінскага саміта.

Падчас тэлефоннай размовы Леанід Кучма паведаміў беларускаму прэзідэнту аб сваёй нядаўняй сустрэчы з Барысам Ельцыным і выніках перамоваў.

*БелаПАН*

## Обиделись за себя и за тех женщин...

**Группа «зеленых» в Европейском парламенте напомнила коллегам, что половину населения Европы составляют женщины.**

Зеленые критиковали парламентскую группу правых за одностороннее предложение в отношении наименования новых зданий парламента в Страсбурге, Брюсселе и Люксембурге (по традиции зданиям и залам даются имена выдающихся людей). Для этой цели были предложены имена Конрада Аденауэра, Жана Моннэ, Поля Анри Спаака и Уинстона Черчилля. «Все они — мужчины и консерваторы», — заявили «зеленые». В их списке предлагаются имена королевы Швеции Кристины, Розы Люксембург, одного из лидеров германских «зеленых» Петры Келли и советского дипломата Александры Коллонтай.

## Ремонт Пизанской башни

**После семи лет бюрократических проволочек итальянские инженеры приступают к спасению Пизанской падающей башни.**

Сейчас ее отклонение от вертикали составляет 520 сантиметров, и с 1990 года на башню запрещено подниматься. Выпрямлять ее до конца никто не собирается: прямых башен в мире и без того достаточно, но остановить падение необходимо.

Под основание наклонной звонницы уже подведена бетонная плита со свинцовым противовесом на одном конце. На высоте 20 метров над землей на башню наденут пояс из стальных тросов в пластиковой оболочке, а к поясу прикрепят два троса длиной по 103 метра, которые будут заякорены в землю в стороне от башни. Из-под фундамента колокольни с той стороны, где он приподнят, начнут постепенно вынимать грунт, а опущенную сторону фундамента укрепят. После этого пояс с тросами можно будет удалить. Работы должны начаться в феврале будущего года.

Любопытно, что жители соседнего города Ливорно предпочли бы, чтобы знаменитая башня упала: они считают, что Пиза незаслуженно отвлекает поток туристов от их города.

*По сообщениям зарубежной прессы*

## Советы от Горбачева

**Экс-президент СССР Михаил Горбачев призывает к досрочным президентским и парламентским выборам в России, полагая, что *«сегодня президент Борис Ельцин — главное препятствие к выходу страны из кризиса»*.**

В статье, опубликованной в американском журнале *Nation*, экс-президент СССР категорично заявил, что *«кризис в России может завершиться только в случае смены правящего режима»*. По мнению М.Горбачева, *«сейчас еще есть шанс осуществить это конституционными средствами»*. *«Российское общество поддержит тяжелые и болезненные решения, которые сейчас необходимы, только если будет доверять властям. Но ни президент, ни Дума сейчас таким доверием не обладают»*, — отмечает «отец перестройки», делая из этого умозаключения вывод о необходимости проведения *«досрочных выборов президента и Думы»*.

Как считает М.Горбачев, утверждение Е.Примакова премьер-министром РФ *«создало благоприятные условия для проведения таких выборов, поскольку Примаков именно тот, кто способен удержать ситуацию от взрыва в период подготовки и проведения выборов»*. В своей статье Михаил Сергеевич несколько неожиданно для него подвергает резкой критике Запад, который, по его мнению, *«похоже, готов вновь бросить Б.Ельцину спасательный жилет политической и моральной поддержки»*. Россия же, по мнению политика, должна проводить реформы, *«не связывая их с авторитарным режимом и его лидером»*, без оглядки на *«догмы и условия Запада»*.

**Дмитрий ЛЫЧКОВСКИЙ**

## Логотип третьего тысячелетия

### *Два орла*

Историческое общество США зарегистрировало символ наступающего третьего тысячелетия, который, как полагают, будет широко использоваться для маркировки самых разных качественных продуктов, включая компьютеры и программы. Его основным элементом является изображение двух орлов, *«один из которых с гордостью озирает прошлое, а другой уверенно смотрит в будущее»*.

**Б.П.**

## Молдавскую казну похитили

### *Республика превращается в одну из беднейших стран Европы*

В затруднительной ситуации оказались полицейские молдавского города Резина, получившие приказ пресечь любые попытки дестабилизации обстановки, — заблокировать главную улицу решили... их жены. Пойти на этот крайний шаг их заставило безденежье — уже четвертый месяц полицейским не выдают зарплату. Заступиться за своих мужей женщины решили после того, как узнали, что по молдавским законам сотрудникам правоохранительных органов строго запрещено участие в акциях протеста.

Сформированное в мае молдавское правительство переживает сейчас самые трудные дни: оно вынуждено признать, что неспособно погасить долги по зарплате, пенсиям и другим социальным пособиям, общая сумма которых превысила 500 млн. леев (более 100 млн. долларов). Одну из главных причин сложившейся обстановки глава кабинета министров Ион Чубук видит в том, что большая часть бизнесменов после кризиса ушла в «теневую экономику» и уклоняется от уплаты налогов. Правда, есть еще одна серьезная причина.

Специально созданная правительственная комиссия, изучив ситуацию с кредитами, выданными за последние пять лет под госгарантии, на днях заявила о крупных хищениях государственных средств. На пресс-конференции в Кишиневе председатель комиссии, вице-премьер Николай Андроник подчеркнул, что в стране не было бы многомиллионных задолженностей по зарплате работникам бюджетной сферы, если бы государственные деньги не расхищались. По его словам, за последние годы в республике была создана «отлаженная система изъятия средств из госбюджета». Данные спецкомиссии, в частности, свидетельствуют, что в период с 1992 по 1997 год министерство финансов «подарило» предпринимательским структурам около одного миллиарда леев (примерно 200 млн. долларов). Единственный способ получить от должников хоть что-нибудь — применить процедуру банкротства, заключила спецкомиссия.

Правда, вряд ли эта мера утешит сотни тысяч жителей республики, находящихся за чертой бедности. Кстати, их число с каждым днем увеличивается, а Молдова, согласно данным представительства Программы по развитию ООН в республике, среди 174 стран мира сегодня занимает 113-е место по показателю человеческого развития (в 1995 году Молдова в этом списке была 81-й). По данным же экспертов Всемирного банка, в настоящее время 84 процента молдаван живут на 2 доллара в день, а внутренний валовой продукт на одного жителя Молдовы снизился с 790 долларов в 1993 году до 540 в 1997-м.

Стабилизировать ситуацию можно, но лишь при активной помощи Международного валютного фонда и других международных финансовых организаций, считают в молдавском правительстве. Правда, получить кредит МВФ тоже будет нелегко — на открывшейся на прошлой неделе осенней сессии молдавский парламент должен одобрить законопроекты о реформе местного самоуправления, пенсионной системы и приватизации энергокомплекса. Только после этого Международный валютный фонд возобновит оказание стране финансовой помощи (в июле 1997 года Фонд прекратил помощь Молдове из-за «неудовлетворительных темпов реформ»).

Сложность ситуации заключается в том, что власти и парламент вынуждены идти на ряд непопулярных мер — увеличить пенсионный возраст в среднем на 5 лет, путем слияния 40 районов республики образовать 8 уездов, приватизировать энергокомплекс. Эксперты МВФ убеждены, что эти меры позволят улучшить ситуацию в финансовой системе, сократить госрасходы на пенсионеров, управленческий аппарат и энергоносители.

Сегодня можно не сомневаться, что парламентарии примут условия Фонда. Даже коммунисты знают, что в случае возобновления помощи МВФ Всемирный банк выделит Молдавии очередной транш кредита в 100 млн. долларов на поддержку структурных преобразований в республике.

**С. КИЯМПУР**

## развалу

незалежных суверэнных дзяржаваў ёсць працэс гістарычна абумоўлены і станоўчы. Яго трэба падтрымліваць, а суверэнізацыі спрыяць не толькі прапановамі гуманітарнай дапамогі і пастаўкай прадуктаў (як цяпер), але і дапамогай інфармацыйнай, асветніцкай, ідэйнай, юрыдычнай, прафесійнай і салідарнай. Усё павінна садзейнічаць самавызначэнню ў былой Расійскай імперыі. Гэта справа добрая і чалавечная.

Хто хутчэй самавызначыцца, той выйграе і не загіне пад абломкамі. Калінінградская вобласць (дзе, дарэчы, 30 працэнтаў насельніцтва — выхадцы з Беларусі), махнуўшы рукой на Маскву і канстытуцыю Расіі, аб'явіла надзвычайнае становішча ў эканоміцы. Гэта крок, але, вядома, не выхад. Прышлае насельніцтва Калінінградскай вобласці (былая Усходняя Прусія) можа выратаваць толькі суверэнітэт і стварэнне незалежнай Балтыйскай рэспублікі (магчыма, разам з афшорнай зонай) з сваім урадам, парламентам і самастойнай палітыкай.

Авантурным імперскім планам «інтэграцыі» Расіі і Беларусі, аднаўлення СССР, «славянскаму адзінству» і іншым напаўфашысцкім, напаўвар'яцкім замашкам (асабліва цяпер, у час банкруцтва і абвалу ў Расіі) рэальнае жыццё супрацьпастаўляе дэзінтэграцыю ўсёй расійскай імперыі і распад аджыўшай сістэмы рускага імперыялізму.

Палітыцы «развязаных рук» і «агульных інтарэсаў», якая паспрыяла прарасійскаму рэжыму на Беларусі і ўсталяванню дыктатуры, можна было супрацьпаставіць іншы падыход, на які спадзяваліся беларуская незалежніцкія сілы — рэальнае пашырэнне дэмакратыі на Усход, умацаванне незалежнасці і дэмакратыі ў Беларусі і на Украіне; апора на гэтыя краіны і на збалансаваную сітуацыю ў рэгіёне, а не на ілюзіі аб дэмакратыі ў Расіі.

**ЛЮБАЯ ДЫКТАТУРА** ў Расіі не будзе дастаткова моцнай без уключэння ў яе сферу Беларусі і Украіны. У інтарэсах Захаду было б дапамагчы вызваліцца гэтым краінам з-пад разбуральнага ўплыву расійскай імперскай палітыкі. І абаперціся трэба было тут на незалежніцкія нацыянальна-вызвольныя сілы, бо ва Усходняй Еўропе (акрамя Расіі) менавіта за гэтымі сіламі стаіць сапраўдная, паслядоўная дэмакратыя і празаходні еўрапейскі вектар палітыкі. Але нацыянальна-незалежніцкія сілы тут паўсюдна антыімперскія, і Захад не стаў іх аднаназна падтрымліваць, каб не «дражніць Расію». Беларусь жа была ўвогуле ціха здадзеная ў палітычнае балота «інтэграцыі» ўзамен за пашырэнне *NATO*. Дзякуй Богу, што хоць падтрымалі з абаронай правоў чалавека і ў непрызнанні дыктатуры.

Захад стаіць перад выбарам і пераменамі ва Усходняй Еўропе. Ці будуць разумна асэнсаваныя падзеі і ці пачнуцца змены пазіцыяў — сказаць цяжка. Пакуль што нічога на гэта непасрэдна не паказвае.

Што датычыць беларускіх адраджэнцаў і беларускіх вызвольных сілаў, то мы свой выбар зрабілі даўно і будзем змагацца, як і раней, за вольную незалежную еўрапейскую Беларусь, не спадзеючыся ні на каго і не зважаючы ні на што.

## Есть шанс выиграть Green Card

### *Лотерея иммиграционных виз в США на 2000 год*

Согласно Закону США об иммиграции, ежегодно проводится лотерея, по которой разыгрывается 55.000 виз на постоянное место жительства в США среди стран с низким уровнем иммиграции в Соединенные Штаты. Беларусь входит в число таких государств.

Как сообщили нам в посольстве США в Минске, чтобы участвовать в лотерее, заявители должны иметь основания утверждать, что они являются уроженцами стран, жители которых имеют право подавать заявления. Кроме того, заявители должны иметь аттестат об окончании средней школы или два года трудового стажа в течение предшествующих пяти лет, причем речь идет о трудовой деятельности, для выполнения которой требуется по меньшей мере два года обучения или стажа.

Заявка должна быть напечатана или четко написана от руки на английском языке и включать в себя следующую информацию: полное имя, дата и место рождения как главного заявителя, так и супруга (супруги) и детей, которые также желают иммигрировать; полный почтовый адрес и по возможности телефон; фотографию заявителя размером 37 на 37 мм, подписанную на обороте печатными буквами (фото должно быть наклеено на заявление прозрачной клейкой лентой). Заявку подписывает лично главный заявитель своей обычной подписью.

Вышеуказанная информация посылается обычной или авиапочтой по адресу:

***DV-2000 Program***
***National Visa Center***
***Portsmouth, NH 00212***
***USA***

Заявки следует посылать в стандартном конверте с обратным адресом заявителя, который печатается или разборчиво пишется в левом верхнем углу конверта. Заявления об участии в лотерее виз *DV-2000* должны поступить по указанному адресу в строго определенный период: с 1 октября до 31 октября 1998 года. Заявки, полученные до или после оговоренных дат, не будут рассматриваться независимо от даты на конверте.

Поступившие заявки получают индивидуальный номер. Выбор победителей осуществляется компьютером произвольно. Посольство США предупреждает, что заявления частных лиц или фирм о предоставлении услуг в увеличении шансов на победу являются заведомо ложными. Обращение за помощью в оформлении заявки к адвокатам, консультантам и т.д. является частным делом и также никоим образом не влияет на успех в лотерее.

Уведомления о результате участия будут рассылаться только победителям и по тем адресам, которые будут указаны на конвертах, между апрелем и июлем 1999 г. вместе с дальнейшими инструкциями по обращению за иммиграционной визой.

Дополнительную информацию о лотерее можно получить ежедневно (за исключением праздников и выходных дней) с 8:30 до 17:30 у охраны посольства США в Беларуси (Старовиленская, 46), либо обратившись в консульский отдел по телефону: (0172)315-000. Условия лотереи почтой не высылаются.

# Прафесія – валютчык

**Стаўленне да гэтых людзей рознае. Адны, пераважна людзі сталага ўзросту, лічаць валютчыкаў п'яўкамі на целе грамадства, якіх трэба лавіць і знішчаць. Большасць ставіцца да іх нейтральна, а многія лічаць валютчыкаў карыснымі — яны дапамагаюць атрымаць рэальную цану за долар.**

## Сацыяльны партрэт

У прынцыпе валютчык — прыкмета фінансавай нестабільнасці і няўмелага ўмяшальніцтва дзяржавы ў эканоміку. Неабходнасць у гэтай прафесіі ўзнікае, калі бушуе інфляцыя ці існуе адразу некалькі курсаў абмену сваіх грошаў на замежныя. Валютчык робіць тое, што не можа банк, рукі якому звязваюць інструкцыямі і ліцэнзіямі.

У нас валютчыкі распаўсюдзіліся ў пачатку 90-ых, калі курс Нацбанка, таксама як і сёння, не адпавядаў рынкаваму, гэтак жа былі пэўныя абмежаванні ў аперацыях з наяўнай валютай. Але як толькі з'явіліся адкрытыя таргі валютай на біржы, а Нацбанк пад кіраўніцтвам Станіслава Багданкевіча пачаў кіравацца рынкавым курсам — сітуацыя рэзка змянілася, і валютчыкі зніклі. Бо працаваць пры малой розніцы куплі-продажу ім стала нявыгадна, а кліентам ніякіх перашкодаў у здачы ці набыцці валюты не чынілася. Памятаю, як сустрэў у той час знаёмага Сяргея, у якога калісьці абменьваў долары ў вестыбюлі кінатэатра «Кастрычнік». Сяргей пахваляўся, што працуе ў банку, і казаў, што «валютная» практыка дапамагла яму стаць спецыялістам банкаўскай справы.

Вось ужо тры гады як равеснікі майго знаёмага зноў сталі да абменнікаў. «Долары — марачкі — Расія». Змяніліся ўмовы працы, валютчыкі ўжо гэтак не афішуюць свае паслугі — каму трэба, сам знойдзе. Сёння добрая частка мінскіх валютчыкаў — гэта жанчыны сярэдняга ўзросту.

## Жыццё прымусіла

У нашым мікраараёне гэтую жанчыну ведаюць усе. Таня — брыгадзір валютчыкаў, якія абслугоўваюць цэлы мікрараён з насельніцтвам 10 тысяч чалавек. Яе пост — у мясцовай ашчаднай касе. Фактычна з 9 гадзінаў раніцы да 8 вечара, без выхадных і святаў цётка Таня ці адна з яе калежанак — на дзяжурстве. Мяняе любыя грошы, дае здачу з любых купюраў, абменены «зайцы» можна не лічыць — усё як у аптэцы. Курс звычайна на тысяч пяць ніжэйшы, чым на Камароўскім рынку ці «Дынама», але не трэба ехаць у цэнтр горада. Як дакацілася да такога жыцця?

Два гады таму ў Тані загінуў муж. Выхоўваць трох дзяцей на заробак з завода стала немагчыма. Не ратаваў і гандаль самагонкай, якую гнала Таніна маці. Вырашыла асвоіць рызыкоўную прафесію валютчыка. З тых часоў два гады круціцца, як ваверка ў коле. Колькі зарабляе? «На жыццё хапае», — кажа Таня. У мікраараёне ў яе ёсць трывалыя кліенты-бізнесоўцы, якім Таня прадае скупленую за дзень валюту. Год таму ў яе з'явілася «крыша». Проста падышлі ветлівыя хлопцы і параілі ўзяць іх у якасці аховы ад розных непрыемнасцяў. Ахова каштуе 20 долараў на тыдзень. Быў час, ахоўнік з паголенай галавой штурхаўся побач, але цётка Таня пераканала «крышу», што ён толькі адпалохвае кліентаў. Ахоўніка знялі. «Крыша» не лютуе. Калі часова здараецца мёртвы сезон, памер даніны змяншаецца ці ўвогуле адмяняецца. *«Хто яны такія, каму падпарадкоўваюцца, я не ведаю. Падазраю, што нашыя 20 долараў — гэта толькі на калготкі іхнім дзяўчатам. Жывуць яны куды з больш сур'ёзнага бізнесу. А нам сапраўды дапамога. Канкурэнтаў няма. Калі хто з'яўляецца, то ветліва патлумачаць, што тут месца занятае»,* — распавядае Таня. Але гэта не азначае, што жыццё ў яе такое прывабнае.

## Аперацыя «Валюта»

Да 1997 года паміж міліцыяй і валютчыкамі існавала «перамір'е». Маглі кагосьці прыхапіць, але звычайна ўсё заканчвалася канфіскацыяй наяўных грошай. Прэзідэнцкі дэкрэт №1 «Аб мерах па забеспячэнні парадку пры ажыццяўленні валютна-абменных аперацыяў» абвесціў вайну валютчыкам. І не толькі ім. Пад канфіскацыю грошай і штраф да 50 «мінімалак» падпалі і грамадзяне, якія ўступаюць у дзелавы кантакт з валютчыкамі.

Аднак тое, што было год таму, не ідзе ні ў якое параўнанне з днямі сённяшнімі. Сутыкнуўшыся з нежаданнем грамадзянаў здаваць валюту па зніжаным курсе Нацбанка, увесь свой гнеў улады абрынулі на галовы валютчыкаў. У верасні пачалася аперацыя «Валюта». Для ўдзелу ў ёй былі мабілізаваныя супрацоўнікі райаддзелаў міліцыі, амона, крымінальнага вышуку, не кажучы ўжо пра міліцыянтаў з упраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю.

З 3 верасня ідзе гэтая аперацыя і канца ёй не бачна. Уявіце сабе: толькі ў Мінску і толькі за адзін дзень — 13 верасня — было затрымана 329 «удзельнікаў незаконных валютных аперацыяў». З іх большасць атрымала штрафы агульнай колькасцю 831 мільён, супраць дзесяці заведзеныя крымінальныя справы, 21 чалавек пасаджаны на 15 сутак.






*У абменных пунктах долараў ніколі няма. Людзі вымушаныя звяртацца да валютчыкаў.*

Аб тым, што міліцэйская статыстыка не хлусіць, я упэўніўся, калі наведаў найбольш папулярныя ў Мінску «чорныя» пункты здачы валюты. Камароўскі рынак — цішыня. Перапуханая жанчына побач з акенцам афіцыйнага пункта распавядае, як «хапалі» і тых, хто «тут стаяў», і тых, хто «сядзеў у машынах з грашыма». *«Зараз вось чакаю, хто здасць долары па 60 тысячаў, ужо нешта даўно няма жадаючых»,* — кажа жанчына.

Сітуацыя паўтарылася на чыгуначным вакзале, ва універсаме «Цэнтральны», кінатэатры «Кастрычнік». Там распавялі, што «октябрят» бралі ў кафэ «Батлейка», што побач. Усіх разам, без прэлюдыяў, нават не ствараючы штучную сітуацыю куплі-продажу. А навошта цырымоніцца? Усіх валютчыкаў міліцыя ведае, як сваіх родных. Толькі атрымай загад і выконвай.

## «Як-небудзь выкруцімся»

Звесткі пра масавыя аблавы супраць калегаў у цэнтры горада Таня сустрэла са здзіўленнем: *«Што ты кажаш? А мы тут нічога не адчуваем».*

Асабіста яна ўпэўненая, што яе хваля аблаваў не закране, а калі і закране, дык вывернецца. Не ўпершыню, у міліцыю ўжо трапляла. Гэта адбывалася, калі ў мікраараён заязджалі з рэйдамі «шалёныя» брыгады з цэнтра і пачыналі браць усіх валютчыкаў без разбору. Яна не супраціўлялася, спакойна ехала ў аддзяленне, а там пачынала з міліцыянтамі *«размаўляць як з людзьмі».*

*«А што, калі ўсё ж закрыюць вашую лавачку? Вось міліцыянта тут паставяць разам з будкай, што тады рабіць будзеце?»* — пытаюся. *«Як-небудзь выкруцімся»,* — адказвае Таня.

## Вынікі

Па дадзеных прэс-службы МУС Беларусі, з пачатку года ў затрыманых падчас «незаконных валютных аперацыяў» грамадзянаў сканфіскаваная 431 тысяча долараў, 60 тысяч нямецкіх марак, 1 мільён 153 тысячы новых расійскіх рублёў. «Зайцоў» канфіскавана дзесяткі мільярдаў. У мільярдах падлічваецца і колькасць спагнаных з грамадзянаў штрафаў. Большасць гэтых грошай адабраныя ў людзей, якія шукаюць больш выгаднага абмену і таму вымушаныя звяртацца да валютчыкаў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Ограбление по-французски

**Два полотна французских импрессионистов — Клода Моне и Альфреда Сислея — похитили в понедельник из Музея изящных искусств в Ницце на Лазурном берегу Франции.**

Рано утром двое неизвестных в масках и с оружием в руках ворвались на квартиру к служителю Жану Фурни и, захватив его в заложники, доставили к зданию музея. Войдя в помещение, злоумышленники, угрожая оружием, заставили охрану отключить сигнализацию, похитили интересующие их картины и скрылись с места происшествия.

# Свободу норкам!

**Британскими активистами Движения за предотвращение жестокого обращения с животными была проведена акция по освобождению пушных зверей.**

На одной из ферм неподалеку от Ньюкасла были освобождены 8 тысяч норок. Активисты не поленились открыть примерно три с половиной тысячи клеток, где зверьки и обитали.

Стоимость шкурки норки составляет примерно 25 долларов, так что убыток владельца понятен. Он, в расстроенных чувствах, не нашелся сказать ничего иного, кроме как: *«Я же держу эту ферму уже 40 лет и все видят, в каких замечательных условиях содержатся животные»*... То, что в конце концов он их убивает, фермеру в голову не пришло.

Но и активисты не совсем правы: это не первое их действие подобного рода, так что они могли бы знать, что освобожденные грызуны начинают поедать в округе все подряд и, говорят, даже напали однажды на одинокого рыболова. Так что полиция вполне обоснованно советует местным жителям поплотнее закрывать дома — особенно те, где есть маленькие дети.

*По материалам зарубежной прессы*

# Что лучше: две жены или два мужа?

**Недавно в парламенте Казахстана, где обсуждался проект закона о браке и семье, возникла интересная дискуссия: допустимо ли многоженство как право мужчины?**

Поправка о многоженстве была отменена на том основании, что принцип равенства полов требует, если допущено многоженство, допустить и многомужество. Депутатам — мужчинам, доминирующим в казахстанском парламенте, мысль о многомужестве показалась странной. Кстати, парламент Таджикистана после долгих дебатов также решил не менять Конституцию, и многоженство она по-прежнему запрещает. Запрещено многоженство и в Киргизии, и в Туркмении, и в Узбекистане. Вопрос: надолго ли? Во всем регионе Центральной Азии многоженство фактически открыто практикуется.

# За 17 лет брака – 15 детей

**Уникальная женщина проживает в селе Жовкини Ровенской области.**

35-летняя Валентина Мордас за 17 лет супружеской жизни родила 15 детей. Последний ребенок матери-героини появился совсем недавно.

*ИМА-пресс*

# Эх, дороги...

**Всю свою** недолгую историю американцам не сиделось на месте. Первым поселенцам досталась во владение огромная страна. Стремление за горизонт, постоянное передвижение с места на место стало формой становления и способом существования нации. Поэтому в современной Америке все, что связано с дорогой, доведено до совершенства. Американские дороги разделены по типам и пронумерованы: интерстейты, соединяющие различные штаты, локальные дороги, платные дороги — *toll roads*. Общеизвестно, что практически все американские дороги находятся в отличном состоянии, всегда доступен бензин, еда и ночлег. Недаром же дороги — предмет национальной гордости американцев. Разница лишь в том, что интерстейт заведет вас гораздо дальше, чем локальная дорога, а за проезд по *toll roads* придется заплатить деньги. Правда, весьма небольшие.

Автомобильное путешествие по США предоставляет возможность приобщиться к одному из исконных американских удовольствий — удовольствию от езды. Потрясающая комбинация — прямая ровная дорога и автоматическая коробка передач. Если прижать руль коленкой — освобождаются обе руки. В Америке под автоматическую коробку создана целая придорожная индустрия. В любом ресторане, в любой закусочной вы можете заказать обед *to go*. Все блюда вам разложат в удобные боксы, и вы можете поглощать их на ходу, не сбавляя скорости.

Кстати, о скорости. В отличие от, например, Германии, в Америке везде есть ограничения. Об этом постоянно напоминают специальные таблички. В разных штатах ограничения разные. Видимо, это в первую очередь зависит от темперамента местных жителей. Так, на горном серпантине Колорадо максимальная скорость 75 миль, а по прямой, как стрела, пустынной дороге в Техасе можно «мчаться» со скоростью не более 55 миль.

Мыслимое ли дело смириться с этим? Это вопрос природной законопослушности. Большинство американцев ею обладает. Для всех прочих существует дорожная полиция. В отличие от наших гаишников полицейские не выскакивают из кустов, размахивая жезлами. Они дожидаются своих жертв, сидя в специальных и, честно говоря, легко вычисляемых местах. Так что обладая отечественным нюхом на ГАИ, попасться на «спидинге» (превышении скорости) в Америке довольно сложно.

Но все-таки лучше не нарушать. Не надо вносить дисгармонию в этот совершенный дорожный мир, где езда становится естественной и незаметной, как дыхание.

**Всеволод БЕРНШТЕЙН**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1239 Нумар падпісаны ў друк 22/09/98 (15:30) Наклад — 19 860.